# THE ULTIMATES

## 2. «Гігант»



Stan Lee presents:

# THE ULTIMATES

Mark Millar story

pencils Bryan Hitch Andrew Currie inks

letters Chris Eliopoulos Paul Mounts colors

editor Ralph Macchio Brian Smith associate editor

editor in chief Joe Quesada Bill Jemas president & inspiration

special thanks to Joe Kubert, Grant Morrison, and Vivi Baltuttis






МНЕ, КАЛІ ЛАСКА, **СМАЖАНІНУ** З ІМБІРОМ І КУНЖУТАМ У **СОУСЕ З САЛОДКАГА ПЕРЦА.** ТОЛЬКІ БЕЗ ЦЫБУЛІ. МНЕ АД ЯЕ **ДРЭННА.**
А **ВАМ,** СЭР?
**ПРАПРАЖАНЫ** КАВАЛАК МЯСА БЕЗ КРЫВІ.
ДЗЯКУЙ, СЭР.
ПРАЧЦЕ ЗА ВІД З АКНА, ДОКТАР БАНЭР. СТОЛЬКІ ПАДНАЧАЛЕНЫХ ПРАЦУЮЦЬ НАД МАІМ ГРАФІКАМ І НІ Ў ВОДНАГА НЕ ПРЫЙШЛО Ў ГАЛАВУ, **ДЗЕ** МЫ БУДЗЕМ СЯДЗЕЦЬ.
СПАДЗЯЮСЯ, ВІД НА РЭКАНСТРУКЦЫЮ ПІРСА ЧЭЛСІ НЕ БУДЗЕ НАГАДВАЦЬ ВАМ ПРА ХАЛКА.
ПРА ХАЛКА?


ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ, ГЕНЕРАЛ Ф'ЮРЫ... АЛЕ Ў АПОШНІ ЧАС Я АМАЛЬ **ЗАБЫЎ** ПРА ХАЛКА.
ЗРАЗУМЕЙ МЯНЕ ПРАВІЛЬНА, СЫНОК, АЛЕ ТЫ, НА МАЮ ДУМКУ, ЯШЧЭ **НЕ ГАТОВЫ** ВЯРНУЦЦА ДА ПРАЦЫ. ХОЧАШ ЯШЧЭ ПАЎГОДА ПАБЫЦЬ У АДПУСКУ?
НЕ-НЕ, ПАВЕРЦЕ, СЭР, Я Ў ПОЎНЫМ ПАРАДКУ.
РАБЛЮ ПА ТРЫ АНАЛІЗА КРЫВІ НА ДЗЕНЬ. І ЎЖО **ТРЫ МЕСЯЦА** ВА МНЕ НЯМА СЛЯДОЎ **КЛЕТАК ХАЛКА.**
МАБЫЦЬ, Я ПАДОБНЫ НА **БЕЗУВАЖЛІВАГА**... Я ПРОСТА ПРЫМАЮ ТАБЛЕТКІ, КАБ НЕ СПАЦЬ.
У МЯНЕ ЁСЦЬ АДЧУВАННЕ, ШТО КАЛІ БРУС БАНЭР **СПІЦЬ,** ПРАЧЫНАЕЦЦА **ХАЛК.**


А ЯК ВАШЫ СПРАВЫ? ПАДАБАЕЦЦА НОВАЯ ПРАЦА? НЕ СТРАШНА АДКАЗВАЦЬ ЗА БЯСПЕКУ ЎСЯГО СВЕТУ?
САПРАЎДЫ, КІРАВАЦЬ «АБАРОНАЙ»... ТОЕ Ж САМАЕ, ШТО БЫЦЬ ПАПАЙ РЫМСКІМ, КАРАЛЕВАЙ І ПРЭЗІДЭНТАМ ЗША АДНАЧАСОВА.
НА ТАКОЙ ПАСАДЗЕ НАВАТ АБЕД З КАЛЕГАМ ПЕРАЎТВАРАЕЦЦА Ў НЕВЯЛІКУЮ ВАЕННУЮ АПЕРАЦЫЮ.
ПАЛОВА НАВЕДВАЛЬНІКАЎ РЭСТАРАНА – ДАСВЕДЧАНЫЯ АГЕНТЫ РАЗВЕДКІ. УСЁ, ШТО МЫ ЗАКАЗАЛІ, СПАЧАТКУ ПРАВЯРАЮЦЬ БАКТЭРЫЁЛАГІ.
КОЖНЫ ПРАДМЕТ МАЙГО ГАРДЭРОБУ НАШПІГАВАНЫ МІКРАФОНАМІ І МІНІЯЦЮРНЫМІ КАМЕРАМІ ЗА МІЛІЁНЫ ДАЛЯРАЎ.
КОЖНАЕ ВЫМАЎЛЕНАЕ НАМІ СЛОВА ЗАПІСВАЮЦЬ І АНАЛІЗУЮЦЬ ДВЕ СОТНІ ПРАФЕСАРАЎ-ЛІНГВІСТАЎ У СКЛЕПЕ «СТАРБАКСА» Ў АРЫГОНЕ.
ПАГАДЗІННА НА ТАКУЮ ПРАЦУ – ТОЕ Ж САМАЕ, ШТО ДАБРААХВОТНА СТАЦЬ ПАРАНАІДАЛЬНЫМ ШЫЗАФРЭНІКАМ.
...АЛЕ АПЛАЧВАЮЦЬ ДОБРА, САКРАТАРКІ СІМПАТЫЧНЫЯ, І ЁСЦЬ МАГЧЫМАСЦЬ ЗАЙМАЦЦА ЎСЯЛЯКІМІ ПАБОЧНЫМІ ПРАЕКТАМІ.


ЯКІМІ?
НАПРЫКЛАД, ПРАГРАМАЙ «СУПЕРСАЛДАТ», НАД ЯКОЙ ВЫ ПРАЦАВАЛІ АПОШНІЯ ВОСЕМ ГАДОЎ.
ПРЭЗІДЭНТ ТОЛЬКІ ШТО ВЫДЗЕЛІЎ СТО ПЯЦЬДЗЕСЯТ МІЛЬЯРДАЎ НА СТВАРЭННЕ НОВАГА КАПІТАНА АМЕРЫКА, ШТО СКАЖАЦЕ, ДОКТАР?
СКАЖУ, ШТО ГЭТА ХЛУСНЯ, СЭР.
ЧАМУ Ж? ПЕРШЫ КАПІТАН АМЕРЫКА ВЫЙГРАЎ ВАЙНУ, ВЫРАТАВАЎ СВЕТ І ЗНАЙШОЎ ІНШАПЛАНЕТНЫЯ ТЭХНАЛОГІІ, ДЗЯКУЮЧЫ ЯКІМ МЫ ЗАСНАВАЛІ НАСА.
ТАК. АЛЕ ЁН ЗАБРАЎ САКРЭТ СЫРОВАТКІ «СУПЕРСАЛДАТА» З САБОЙ У МАГІЛУ. МЫ СПРАБАВАЛІ ЯЕ СТВАРЫЦЬ ПА-НОВАМУ. І ВЫНІКІ ВЫ БАЧЫЛІ – МІЛЫ ЗЯЛЁНЫ МОНСТАР.
З ЧАГО Б ХТОСЬЦІ, У СВАІМ РОЗУМЕ, СТАНЕ ЎКЛАДВАЦЦА Ў ПРАГРАМУ «СУПЕРСАЛДАТ» ПАСЛЯ ТАГО, ШТО Я ЗРАБІЎ З ЧЭЛСІ ПІРС?
ВЫ ГЭТА СУР'ЁЗНА?
З ТАГО, ДОКТАР, ШТО МЫ ЖЫВЕМ У ШАЛЁНЫЯ ЧАСЫ. ЗЛАЧЫННАСЦЬ ПЕРАЎТВАРАЕЦЦА Ў СУПЕРЗЛАЧЫННАСЦЬ. ТЭРАРЫЗМ – У СУПЕРТЭРАРЫЗМ.
НАВАТ ДА САМАГА ТУПОГА ПАЛІТЫКА НА КАПІТАЛІЙСКІМ ХАЛМЕ ЎЖО ДАЙШЛО, ШТО ДЗІЦЯЦІ ЗОРНЫХ ВОЙНАЎ БЕЗКАРЫСНАЕ СУПРАЦЬ ПАГРОЗ, ЯКІЯ ПАЎСТАЮЦЬ ПЕРАД АМЕРЫКАЙ.


ДАСТАТКОВА СУР'ЁЗНА, КАБ ПЕРАВЕСЦІ ТВАІХ ЛЮДЗЕЙ З ТОЙ ЗАЧУХАНАЙ ДЗЮРЫ ПАД ПІТСБУРГАМ У НАВЕЙШУЮ ЛАБАРАТОРЫЮ Ў ДЗЕСЯЦІ МІЛЯХ АД УЗБЯРЭЖЖА МАНХЭТТАНА.
ДЖОРДЖЫ-МАЛОДШЫ КАЖА ПРА СПРОНСАРСТВА ПЯЦІ СУПЕРЛЮДЗЕЙ ДЛЯ ПАЧАТКУ, А Я ЛІЧУ, ШТО НАМ ЯК НІКОЛІ РАНЕЙ ПАТРЭБНЫ СЯРОД ІХ ХТО-НЕБУДЗЬ З ФЛАГАМ НА ГРУДЗІ.
НЕВЕРАГОДНА: ПАМЯНШЭННЕ КОЛЬКАСЦІ ЗВЫЧАЙНЫХ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯЎ І ПАВЕЛІЧЭННЕ ВЫДАТКАЎ НА НЕВЯЛІКІ АТРАД СУПЕРЛЮДЗЕЙ ДЛЯ ВЫРАШЭННЯ ПРАБЛЕМАЎ XXI СТАГОДДЗЯ.
МЕНАВІТА ПРА ГЭТА Я ПІСАЎ У СВАІХ ФАКСАХ ГЕНЕРАЛУ РОСУ, ЯКІЯ ЁН КОЖНЫ РАЗ АДХІЛЯЎ. НЕ ВЕДАЮ, ШТО І СКАЗАЦЬ, СЭР...
ДОБРА, НЕ СПЯШАЙСЯ МЯНЕ ШАНАВАЦЬ, СЯБАР МОЙ, ПАКОЛЬКІ ТЫЯ ТВАЕ ПРАБЛЕМЫ СА ЗДАРОЎЕМ АЗНАЧАЮЦЬ, ШТО ДВАНАЦЦАЦІЗНАЧНЫ БЮДЖЭТ ВЫДЗЯЛЯЕЦЦА З АДНОЙ ДАДАТКОВАЙ УМОВАЙ.
ЯКОЙ ЖА?
МЫ ПАНІЖАЕМ ЦЯБЕ НА ПАСАДЗЕ ДА НУМАРА ДРУГОГА.


Даследчы цэнтр праекта «Суперсалдат», Пітсбург:
FRAGILE
Я З ГЛУЗДУ З'ЕХАЛА, ДЖЭЙСАН, ЦІ КАЗУРКІ ДАПАМАГАЮЦЬ НАМ З ПЕРАЕЗДАМ?
ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, МІСІС ПІМ, АЛЕ БАЮСЯ ГЭТА ЗАСАКРЭЧАНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ. КАЛІ ХОЧАЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ДАВЕДАЦЦА ПРА ГЭТЫХ МУРАШАК – СПЫТАЙЦЕ СВАЙГО МУЖА.
МУРАШКІ?
АГА, ДЖЭН, ШТО СКАЖАШ? НЯЎЖО ЯНЫ НЕ КАЙФОВЫЯ? У МЯНЕ ТУТ ІХ ДВА З ПАЛОВАЙ МІЛЬЁНА НА ПАГРУЗЦЫ, А ЯШЧЭ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ТЫСЯЧ РАЗНОСЯЦЬ ГАРАЧЫЯ НАПОІ.
КАВУ ЯНЫ БЯССПРЭЧНА РОБЯЦЬ ЛЕПШ, ЧЫМ РАНЕЙ...


...ТОЛЬКІ ГЭТЫЯ НЯЗГРАБНЫЯ МАЛЫШЫ IRIDOMYRMEX HUMILIS УСЁ ВАЛЯЦЦА Ў КРУЖКУ, КАЛІ ЦУКАР І СЛІЎКІ ДАДАЮЦЬ.
Я ТУТ ПРАЦУЮ НАД НОВАЙ СІСТЭМАЙ СУВЯЗІ ДЛЯ ВАЕННЫХ. ЯНА ВЫКАРЫСТОЎВАЕ ФЕРАМОНЫ ЗАМЕСТ РАДЫЁХВАЛЬ ДЛЯ ПЕРАДАЧЫ ІНСТРУКЦЫЙ У АБЫХОД ВАРОЖАГА ПЕРАХОПУ.
ДЛЯ ЭСПЕРЫМЕНТАЎ НА ЛЮДЗЯХ ЯШЧЭ РАНАВАТА, АЛЕ МАГУ З УПЭЎНАСЦЮ СЦВЯРДЖАЦЬ, ШТО ПРАЗ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ ЗМОЖАМ ПЕРАЙСЦІ ДА ПАВУКОЎ.
А ТЫ САПРАЎДЫ Ў ФОРМЕ, ХЭНК. ЗДАЕЦЦА, Я НЕ БАЧЫЛА Ў ЦЯБЕ ТАКОГА ЭНТУЗІЯЗМА Ў РАБОЦЕ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК ТЫ ПАБУДАВАЎ ТОЙ МАЛЕНЬКІ КОШКАПАСКАРАЛЬНІК.
І НЕ КАЖЫ: УЖ НЯ ВЕДАЮ, МАБЫЦЬ, ГЭТА МАГНІТНЫЯ БУРЫ ЦІ ПРОСТА САМ ФАКТ, ШТО МЫ ЗВАЛІВАЕМ З ГЭТАЙ ДЗЮРЫ...
...АЛЕ Ў НАШ ЧАС ІДЭІ ДЛЯ СУПЕРЛЮДЗЕЙ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДА МЯНЕ Ў ГАЛАВУ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ Я ІХ ЗАПІСВАЦЬ ПАСПЯВАЮ. ГЭТА ФОРМУЛА ДЛЯ ВОЛАТА ПРАКТЫЧНА САМА САБОЙ ВЫВЯЛАСЯ.
AMERICA
ШКАДА ТОЛЬКІ, ШТО ГЭТАГА ГІДКАГА БАНЭРА ВЯРНУЛІ Ў ПРАЕКТ. ЯК БЫ ЁН УСЁ НЕ САПСАВАЎ.
ЗА ЯГО НЕ ХВАЛЮЙСЯ, ДАРАГАЯ. Ф’ЮРЫ ПАСАДЗІЦЬ ЯГО НА ЗАВУГОЛЛЕ КОМПЛЕКСА ПРАЦАВАЦЬ НАД СЫРОВАТКАЙ КАПІТАНА АМЕРЫКА.
МЫ БУДЗЕМ БАЧЫЦЬ ЯГО ТОЛЬКІ НА КАЛЯДНЫХ ВЕЧАРЫНКАХ І ПАД ЧАС ВІЗІТАЎ ПРЭЗІДЭНТА.
ДЫ Я І НЕ ХВАЛЮЮСЯ, ШТО ЁН БУДЗЕ ПАД НАГАМІ ТАЎЧЫСЯ. МЯНЕ БОЛЬШ ТУРБУЮЦЬ ЧУТКІ ПРА ТОЕ, ХТО ЯГО СПАНСІРАВАЎ РАНЕЙ...
КАЖУЦЬ, ЁН УДЗЕЛЬНІЧАЎ У ТАЕМНЫХ ЭКСПЕРЫМЕНТАХ СЫРОВАТКІ НА ЛЮДЗЯХ? ТЫ Ў ГЭТА ПАВЕРЫШ?
ХТО ЯГО ВЕДАЕ?
У «АБАРОНЕ» ВА ЎСІХ ЁСЦЬ ШКІЛЕТЫ Ў ШАФЕ, АЛЕ Я ЛІЧУ, Ф’ЮРЫ СУР’ЁЗНА ВЫРАШЫЎ ЗАНЯЦЦА НАШЫМ ІМІДЖАМ.
У ГЭТАГА ПРАЕКТА З СУПЕРГЕРОЯМІ БУДЗЕ САМЫ МАШТАБНЫ ПІЯР У ГІСТОРЫІ ЧАЛАВЕЦТВА. У ІМ НАВАТ СТАРК УДЗЕЛЬНІЧАЕ. ДОБРЫ ЗНАК, САПРАЎДЫ?
ТОНІ СТАРК?
ТЫ ШТО, ПОШТУ НЕ ПРАВЯРАЛА?
ДЗЯДЗЯ СКРУДЖ З ЧАСОПІСА «ФОРБС» СПУСЦІЎСЯ З ГРАШОВАЙ ГАРЫ І ДАЗВОЛІЎ Ф’ЮРЫ ЎЗЯЦЬ У КАМАНДУ ЖАЛЕЗНАГА ЧАЛАВЕКА.


Манхэттан:
MetLife
Ён **заўсёды** так выбрыківаецца, калі спрабуе на справе новую браню?
Заўсёды, генерал Ф'юры. Часам мне здаецца, што Тоне не назаве палёт **удалым**, пакуль не памахае рукой **усім** офісным працоўніцам у горадзе.
Не вер яму, Нік. Містар Хоган добра ведае, што я машу толькі самым **сімпатычным**.
Зноў за былое?
Вы штосьці **кампенсіруеце**, майстар Тоні?
Ведаеце, што кажуць пра **халасцякоў**, якія вельмі хочуць праславіцца **бабнікамі**?
Джарвіс, запхніся і **не пужай** мяне, ты ж павінен быць ідэальным **англійскім прыслужнікам**. Дзе мая водка з апельсінавым сокам?
Але зараз дзесяць гадзін раніцы, Тоні.
Не хварэйце.
А ў Маскве ўжо вечар.


ДОБРА, ДАВАЙЦЕ АБМЯРКУЕМ СКЛАД КАМАНДЫ.
Я, ПІМ, ЯГО НЯШЧАСНАЯ ЖАНА... І ЯКІ-НЕБУДЗЬ МАРСКІ ПЕХОТНІК, НА ЯКІМ БАНЭР УДАЛА ВЫПРАБУЕ ФОРМУЛУ КАПІТАНА АМЕРЫКА. І ЎСЁ?
МЕНАВІТА ТАК, ТОНІ.
А МОЖНА ПАЗБАВІЦЦА АД БАНЭРА? ЦЯЖКА ДАВЯРАЦЬ ЧАЛАВЕКУ, ЯКІ ПЕРАТВАРЫЎСЯ Ў ЗЯЛЁНАГА МОНСТРА І РАЗБУРЫЎ МАЮ ЛЮБІМУЮ КАНДЫТАРСКУЮ.
АБ ГЭТЫМ НАВАТ І НЕ ДУМАЙ. КАМАНДЗЕ ПАТРЭБНЫ ЛІДАР, А ТОЛЬКІ БРУС БАНЭР ЗДОЛЬНЫ ДАПАМАГЦІ НАМ ПЕРАТВАРЫЦЬ ЛЕПШАГА САЛДАТА ЗША Ў КАПІТАНА АМЕРАКА.
ЯК НАКОНТ ТАГО МУЖЫКА З ЕЎРОПЫ, ЯК ЯГО... ТОР? Я ТУТ ГЛЯНУЎ ЯГО ІНТЭРВ'Ю ПРА ШКОДУ, ЯКУЮ НАНОСЯЦЬ СВЕТУ КАРПАРАЦЫІ. ХАРЫЗМАТЫЧНЫ ХЛОПЕЦ.
ТОЛЬКІ ДА ТЭЛЕФОНА НЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ. АЛЕ, МЯРКУЮЧЫ ПА ЯГО МОЛАТУ, ЛЕПШ З ІМ СЯБРАВАЦЬ, А НЕ СВАРЫЦЦА.
З ФАНТАСТЫЧНАЙ ЧАЦВЁРКАЙ РАЗМАЎЛЯЛІ?
НА ІХ СУСЕДЗІ ЎВЕСЬ ЧАС СКАРДЗЯЦЦА. ТАМУ ЗАБУДЗЬ ПРА ГЭТА, КАЎБОЙ.
НА НАС І ТАК КРЫВА ГЛЯДЗЯЦЬ З-ЗА СКАРАЧЭННЯ ВЫДАТКАЎ НА АРМІЮ. АДЗІН ПАМЫЛКОВЫ КРОК - І НАМ ГАМОН. ЧАМУ, ЯК ТЫ ЛІЧЫШ, У КАМАНДЗЕ НЯМА МУТАНТАЎ?


ДЫК ВОСЬ ЧАМУ ВЫ ТАК ЖАДАЛІ МЯНЕ АТРЫМАЦЬ, ГЕНЕРАЛ? КАБ НАША ІДЭЯ ВЫГЛЯДАЛА ХОЦЬ ТРОХІ ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ПУБЛІКІ?
Я ГЭМУ І НЕ СУПЯРЭЧУ, ТОНІ. ТВАЁ ІМЯ - ПРАВЕРАНЫ ГАНДЛЁВЫ ЗНАК. ЁН ПРАДАСЦЬ УСЁ: АД МАБІЛЬНЫХ ПРЫЛАД ДА ДЫЕТЫЧНАЙ КОЛЫ.
НУ І НОВАЯ БРАНЯ ЖАЛЕЗНАГА ЧАЛАВЕКА ТАК САМА НЕ БУДЗЕ ПЕРАШКАДЖАЦЬ.
ВОНКАВЫ КАМУФЛЯЖ, АБАРОНА АД ЧЫТАННЯ ДУМАК, СІСТЭМА НАЗІРАННЯ, ЗДОЛЬНАЯ ЗНАЙСЦІ ДЭМАКРАТА Ў ТЭХАСЕ... ВУЧОНЫЯ «АБАРОНЫ» АБА ЎСІМ ГЭТЫМ ТОЛЬКІ МАРАЦЬ.
Я ТОЛЬКІ НЕ ЗРАЗУМЕЮ, ЧАМУ ТЫ Ў ВЫНІКУ НЕ СТАЎ ДЗЯЛІЦЦА ТЭХНАЛОГІЯМІ З МАІМ ВАЕННА-ПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСАМ?
ТЫ ЗАБЫЎ ПРА ЎСЕ ЭКСКЛЮЗІЎНЫЯ КАНТРАКТЫ «СТАРК ІНТЭРНЭЙШНАЛ».
ВОСЬ ТОЛЬКІ НЯ ТРЭБА ХАВАЦЦА ЗА КАНТРАКТЫ. УСЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТЫ БАГАЦЕЙ БОГА. ЧАМУ ТЫ ПЕРАДУМАЎ?
ШЧЫРА?


Я ЗАПЫТАЎСЯ Ў СЯБЕ, ШТО БУДЗЕ, КАЛІ ЎСЕ МІЛІЯРДЭРЫ І ЎРАДЫ ПАСПРАБУЮЦЬ ВЫРАТАВАЦЬ СВЕТ, ЗАМЕСТ ТАГО КАБ ВЫЦІСКАЦЬ З ЯГО ЎСЕ СОКІ?
РАЗУМЕЕЦЕ, АБ ЧЫМ Я?
ДОБРА РАЗУМЕЮ.
НІКОЛАС Ф'ЮРЫ, ГЭТА МОЖА СТАЦЬ ПАЧАТКАМ ВЯЛІКАГА СЯБРОЎСТВА.
СЭР, НА ЛІНІІ ПЭПЕР З ПРЫЁМНАЙ. ВАШ ШРУБАЛЁТ ЧАКАЕ НА ДАХУ...
У ВАС ЗАПЛАНАВАНЫ АБЕД З ПРЭЗІДЭНТАМ І ПАГЛЫНАННЕ КАМПАНІІ МАРКОНІ. А Ў ТРЫ ГАДЗІНЫ ВЫ СУСТРАКАЕЦЕСЯ З МІС КЭМЕРАН ДЗІАС.
ДАРАГАЯ, ПЕРАДАЙ ПІЛОТУ, ШТО МОЙ ЛІФТ БУДЗЕ НА ДАХУ ПРАЗ ХВІЛІНУ І СОРАК ДЗВЕ СЕКУНДЫ.
ВЫ ВЕЛЬМІ ДЗІЎНЫ ЧАЛАВЕК, МІСТАР СТАРК.
САПРАЎДЫ? А Я ЛІЧЫЎ, ШТО БАГАЦЦЕ Ў ТРЫСТА ПЯЦЬДЗЕСЯТ МІЛІЯРДАЎ ДАЗВАЛЯЕ МНЕ ЗВАЦЦА ЎСЯГО ТОЛЬКІ ЭКСЦЭНТРЫЧНЫМ, ГЕНЕРАЛ Ф'ЮРЫ.


Трыкселіён, унутраная бухта Манхэттана
РАДА ЗНОЎ ВАС БАЧЫЦЬ, ДОКТАР БАНЭР. ДАПАМАГЦІ ВАМ З ЧАМАДАНАМІ? ЯНЫ ВЫГЛЯДАЮЦЬ ЦЯЖКІМІ.
НЕ, ДЗЯКУЙ, МІСІС ПІМ. МАГЧЫМА, Я БОЛЬШ І НЕ ХАЛК, АЛЕ ПАРУ КНІГ І НОЎТБУК ЗМАГУ ДАНЕСЦІ.
ЯК ПАЖАДАЕЦЕ.
ШТО ДУМАЕЦЕ ПРА НОВЫ БУДЫНАК? ЁН ЯШЧЭ НЕ ДАБУДАВАНЫ, АЛЕ ЎЖО Ў МІЛІЁН РАЗОЎ ЛЕПШ НАРЫ Ў ПІТСБУРГУ.
НЕ МАГУ ЎЯВІЦЬ, ЯК ВЫ ТАМ НЕ З'ЕХАЛІ З ГЛУЗДУ ЗА ЎСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ?
А ПАЗЕЛЯНЕЦЬ І ЎЧЫНІЦЬ ПАГРОМ У НЮ-ЁРКУ – ГЭТА, НА ВАШУ ДУМКУ, НЕ З'ЕХАЦЬ З ГЛУЗДУ?


ЖАРТУЮ, МІСІС ПІМ.
А, НУ ТАК, СМЕШНА.
ДАРЭЧЫ, МНЕ НІК Ф'ЮРЫ НЯДАЎНА РАСКАЗАЎ, ШТО ВЫ БЫЛІ ЗАРУЧАНЫ З БЭЦІ РОСС!
А ВЫ ВЕДАЛІ, ШТО ЯНА БЫЛА МАЁЙ СУСЕДКАЙ ВА ЎНІВЕРСІТЭЦЕ НЮ-ЁРКА? ПОТЫМ, ПРАЎДА, ПЕРАЕХАЛА ВУЧЫЦЦА НА РЭКЛАМШЧЫКА Ў БЕРКЛІ.
БОЖА, Я СТО ГАДОЎ ЯЕ НЕ БАЧЫЛА... І РАПТАМ АКАЗВАЕЦЦА, Ф'ЮРЫ НАЗНАЧЫЎ ЯЕ НАШЫМ ПІЯР-МЭНЭДЖАРАМ.
ШЧЫРА КАЖУЧЫ, МЫ ДАЎНО РАЗЫШЛІСЯ, МІСІС ПІМ. БЭЦІ НАБЫЛА НЕЙКУЮ ДУРАЦКУЮ КНІГУ ПА САМААНАЛІЗУ І ВЫРАШЫЛА, ШТО Я НА ЯЕ ДРЭННА ЎПЛЫВАЮ.
КАЛІ МЫ БАЧЫЛІСЯ Ў АПОШНІ РАЗ, ЯНА ПЕРАЕХАЛА Ў СОХА, ПАРАФАРБАВАЛАСЯ Ў РУЖОВЫ КОЛЕР І ПРАПАНАВАЛА ПАЖЫЦЬ АСОБНА.
САПРАЎДЫ?
З ЧАГО Б ГЭТА?

ПРЫВІТАННЕ, БРУС! ПРАБАЧ, ШТО НЕ СУСТРЭЎ, АЛЕ ГЭТЫЯ ТРУДАГОЛІКІ ЎСЮ РАНІЦУ РЫХТУЮЦЬ МЯНЕ ДА ІСПЫТАЎ ФОРМУЛЫ ГІГАНТА.
НУ ТАК, САМ НАС ПРЫМУСІЎ, А ЦЯПЕР СКАРДЗІЦЦА. РАДЫ ЗНОЎ БАЧЫЦЬ ВАС, ДОКТАР БАНЭР.
СПАДЗЯЮСЯ, ТАБЕ БОЛЬШ ПАШАНЦУЕ З КАПІТАНАМ АМЕРЫКА. ГАЛОЎНАЕ, КАБ УСЕ ЧАСТКІ ЦЕЛА ПАВЯЛІЧВАЛІСЯ З АДНОЛЬКАВАЙ ХУТКАСЦЮ, ТАК, ПІМ?
УСЯ БІЯЛОГІЯ ПАДЛІЧАНА ДА ДЗЕСЯТАЙ ДОЛІ ПРАЦЭНТА. Я ТОЛЬКІ БАЮСЯ, ШТО НЕ ЗМАГУ СПЫНІЦЦА, КАЛІ ВЫРАСТУ ДА 18 МЕТРАЎ.
ЧАМУ ЁН ТАК ГАВОРЫЦЬ?
ПАСЛЯ ВАСЕМНАЦЦАЦІ МЕТРАЎ ЧАЛАВЕЧАСКІ ШКІЛЕТ НЕ ВЫТРЫМАЕ МАСУ СВАЙГО ЦЕЛА, ДОКТАР.
МОЙ МУЖ БАІЦЦА, ШТО Ў ЯГО ЗЛАМАЮЦЦА КОСТКІ. ХАЦЯ Я МІЛЬЁН РАЗ ЯМУ КАЗАЛА, ШТО РОСТ СПЫНІЦЦА РЭФЛЕКТОРНА.
ШТО, НА ТВАЮ ДУМКУ, ЗАМІНАЕ МНЕ СТАЦЬ МЕНЬШ ТРОХ САНТЫМЕТРАЎ, МІЛЫ? НАША НЕРВОВАЯ СІСТЭМА НЕ ДАЗВАЛЯЕ ПАСТАВІЦЬ ЦЕЛА ПАД ПАГРОЗУ.
ШТО Ж, ПРЫЙШОЎ ЧАС ПРАВЕРЫЦЬ ТВАЮ ТЭОРЫЮ НА ПРАКТЫКЕ, ДАРАГАЯ...


CLEAR
CAUTION
ТЭСТ ПАЧНЕЦЦА ПРАЗ **10 СЕКУНД**. СПАДАРЫ І СПАДАРЫНІ, ПАКІНЬЦЕ ПАМЯШКАННЕ.
CLEAR
ПАКУЛЬ ШТО НІЯКІХ ЗМЯНЕННЯЎ.
**ЦЯРПЕННЕ**, ДЖЭЙСАН. ДАЙ ЯМУ ЧАС.
О, БОЖА...
НЕ БОЙСЯ, МІЛЫ. МЕНАВІТА ГЭТАГА ТЫ І ХАЦЕЎ.
НЕ, ДЖЭН. **ШТОСЬЦІ НЯ ТАК**... УСЁ **ЗВУЖАЕЦЦА**, ЗАМЕСТ ТАГО КАБ **УВЯЛІЧВАЦЦА**...
УСЁ Ў ПАРАДКУ, ХЭНК. ПРОСТА ТВАЁ **ЎСПРЫНЯЦЦЕ** МЯНЯЕЦЦА. ЗАПЛЮШЧЫ ВОЧЫ, КАЛІ СТРАШНА.


ДЖЭН! ШТО СА СВЯТЛОМ?
**НІЧОГА АСАБЛІВАГА**, ДАРАГІ. ТЭХНІЧНЫЯ **НЕПАЛАДКІ**. ТЭХНІК, ВЫКЛЮЧЫЦЬ СІЛКАВАННЕ НА СЕКТАРАХ 47 І 48, УКЛЮЧЫЦЬ **ПАДСВЕТКУ ПАДЛОГІ**.
О БОЖА! О БОЖА! МЯНЕ ВЫВАРОЧВАЕ НАВЫВАРАТ, ДЖЭН!
ЧАГО ЧАКАЕШ, БАЛВАН?
**ЗАПАЛЬВАЙ СВЯТЛО!**


ПАВЕРЫЛІ, ДУРНІ.


ХЭНК ПІМ, НУ Я ТАБЕ...
СЕМНАЦЦАЦЬ З ПАЛОВАЙ МЕТРАЎ!
ВЫДАТНА, ДОКТАР ПІМ!
ДОКТАР БАНЭР?! НАКОЛЬКІ ГЭТА БЫЛО КРУТА ПА ДЗЕСЯЦІБАЛЬНАЙ ШКАЛЕ, ГА?
ДЗЕСЯЦЬ З ДЗЕСЯЦІ, ДЖЭЙСАН.
УРАА!


Кватэра доктара Банэра
ЯК У МЯНЕ СПРАВЫ? А ВЫ ЯК ЛІЧЫЦЕ, ГЕНЕРАЛ?
ХЭНК ПІМ КАЗЫРЫЦЦА І КЛІЧА СЯБЕ **ГІГАНТАМ**. А Я СЯДЖУ З БУТЭЛЬКАЙ ВІНА І КРАСЛЮ НА ДОШЦЫ **БЯССЭНСАВЫЯ** ЎРАЎНЕННІ.
ЧАМУ Я ДАЗВАЛЯЮ ЯМУ ТАК ДА МЯНЕ СТАВІЦЦА? ЯШЧЭ ТРОХІ, І ЁН СТВОРЫЦЬ УСЮ ПРАКЛЯТУЮ КА-МАНДУ, А Я ЎСЁ Б'ЮСЯ НАД ГЭТАЙ ІДЫЁТСКАЙ **ФОРМУЛАЙ**...
І ЧАМУ Я СЛОВА ІМ НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ, НЕ ВЫГЛЯДАЮЧЫ ПРЫ ГЭТЫМ, ЯК ПОЎНЫ...
ШТО-ШТО, ГЕНЕРАЛ?
ЗАПХНІЦЕСЯ І ДАСТАВАЙЦЕ ШАМПАНСКАЕ, ЯКОЕ БЕРАГЛІ ДЛЯ ВЫХАДА НОВАГА СЕЗО-НА «**ЗОРНАГА ШЛЯХУ**». ВАШЫ МАЛЬБЫ БЫЛІ **ПАЧУТЫ**...


«НІ ЗА ШТО НЕ ПАВЕРЫЦЕ, ШТО МЫ ВЫЛАВІЛІ З ПАЎНОЧНА-ЛЕДАВІТАГА АКІЯНУ...»
To Be Continued...